© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020





# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 52 (1139) ГОД XXII БЕЛАСТОК 25 СНЕЖНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.





*Беластоцкія „Каласкі“ завезлі ў Гданьск багатае бярэмя звонкіх песень...*

# У БЕЛАРУСАЎ НАД БАЛТЫКАЙ

Гэта было надзвычайнае свята беларускай справы. Недзе непадалёк калыхалася ў штылі сівая Балтыка, на рэйдзе раз-пораз адзываліся гулкія сірэны караблёў, а тут, у цэнтры старажытнага Гданьска, побач з сярэднявечнай ратушай, ішла гаворка пра беларускую культурна-асветную дзейнасць на Узбярэжжы. І нагода да гэтага была не абы-якая: **гданьскі гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства 3 снежня 1977 года адзначаў 10-ю гадавіну сваёй дзейнасці.**

На ўрачыстасць прыбылі з самымі сардэчнымі пажаданнямі далейшых поспехаў у працы і жыцці беларусам-гданьчанам старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік,** штатныя працаўнікі нашага таварыства і з бярэмем звонкіх песень ды цікавай п'есай беластоцкі гарадскі калектыў БГКТ „Каласкі“.

А адзначаць было што. Зерне, пасеянае заснавальнікамі гуртка **І. Мельнікавай, М. Сівіцкім, О. Сапешка, А. Красько, М. Галёнка, У. Паўлоўскім, Я. Баравіком, Я. Шэрыньскім** і іншымі, прынесла багаты плён. Як сцвердзіла старшыня гданьскага гуртка БГКТ **А. Красько** ў сваёй справаздачы на ўрачыстасці, гэтая каштоўная ініцыятыва трапіла на прыхільную глебу, бо ў Гданьску і яго ваколіцах жыве многа беларусаў, якія ахвотна ўступалі ў рады нашай арганізацыі. Ужо ў снежні 1967 г. у гуртку было 66 членаў, а ў сакавіку 1969 г. гданьская арганізацыя БГКТ складалася з 120 чалавек. Гэтая колькасць членаў утрымоўваецца і па сённяшні дзень. Да БГКТ належаць у асноўным маладыя людзі, што працуюць на Гданьскай суднабудаўнічай верфі, нафтаперапрацоўчым заводзе, у портах, на будоўлях, а таксама настаўнікі, студэнты. Дзякуючы выдатнай дапамозе мясцовых уладаў і асабіста **др Ф. Мацкевіча** ў 1970 г. гурток атрымаў для вядзення сваёй дзейнасці добрае памяшканне ў адной з рэстаўраваных славутых гданьскіх камяніц у самым цэнтры горада. Праца ж была і рознабаковая і цікавая: ад урачыстых пасяджэнняў ва ўласным клубе да папулярызацыі беларускай культуры ў Гданьску, Сопаце і Гдыні.

Урачыста адзначаліся дзяржаўныя святы і гадавіны ПНР, а таксама святы і гадавіны СССР і БССР: Ліпеньскае свята, 1 Мая, Ленінскія дні, гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай

Працяг на стар. 4

# „А ДЗЕ Ж ТАЯ КРЫНІЧАНЬКА?..“

На выступленне харавых калектываў Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў нядзелю 27 лістапада гэтага года я ішоў з трывогай у сэрцы. Але па ходу канцэрта мае боязі хоць і не зніклі цалкам, то ўсё ж адышлі на другі, далейшы план.

Нашы чатыры самадзейныя харавыя калектывы („Каласкі“ з Беластока, „Васілёчкі“ з Бельска, хор з керамічнай фабрыкі ў Ляўкове і хор з Гарадка) далі сапраўды заслугоўваючы на ўвагу канцэрт. Перш за ўсё здзівіў ён слухачоў рэпертуарным багаццем — са сцэны „Звёнзкоўца“ прагучэла сама меней паўсотні беларускіх, польскіх, рускіх і ўкраінскіх песень. Найбольш жа было беларускіх. І былі гэта творы ў самым разнастайным выкананні: адно- і двухгалосых хораў, квартэтаў, дуэтаў, сола. Прыемна было сцвердзіць, што мастацкія кіраўнікі калектываў даволі трапна раскрылі характар паасобных песень. Не толькі падкрэсліваўся ўласцівы беларускаму меласу лірызм, глыбокая пачуццёвасць (возьмем хоць бы „Я лясам сваім паведаў думы...“), але часам нават і грубаватасць („Баба Еўка, дзед Тамаш...“). Добра выйшла і з характэрнай для беларускай песні напеўнасцю, што, здаецца, адлюстроўвае мяккасць і раўнавагу нашага нацыянальнага характару, сціплую прыгажосць і спакой роднай прыроды.

І з выканаўчым майстэрствам таксама справа выглядала цалкам добра. Бо ці была гэта песня „Павей, павей, ветру...“ ў выкананні „Каласкоў“, ці дзявочая лірычная хору з Ляўкова, „Не шукай ты мяне...“ бельскіх „Васілёчкаў“ ці „Белая хусцінка“ хору з Гарадка — усе яны заварожвалі слухачоў. Акуналі залу ў той лірычны настрой, які выклікае толькі высокае спявачае майстэрства.

Ёсць у нас і добрыя дуэты. Даволі ўспомніць Любу і Алю Гаўрылюк з Беластока, Н. Цыванюк, Н. Пятэльскую з Гарадка і шэраг іншых з іх вельмі ўмела дапасаванымі галасамі, каб яшчэ і яшчэ ўсплылі трывала запомніўшыеся мелодыі ў іх выкананні. Нельга таксама наракаць і на салістаў. Ужо адно тое, што А. Ясюк з „Васілёчкаў“ мусіў паўтараць сваю „Баба Еўка, дзед Тамаш...“, вельмі карысна сведчыць і пра яго голас і пра жывую інтэрпрэтацыю. Удала выступілі салісткі М. Харкевіч і Я. Закшэўская з Ляўкова і ін-

Працяг на стар. 4

БЕЛАВЕЖСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРК

# 30 ГАДОЎ ПРЫ НАРОДНАЙ УЛАДЗЕ

21 снежня г.г. — 30 гадавіна рэстытуцыі Белавежскага нацыянальнага парку. Роўна трыццаць гадоў таму назад увайшло ў жыццё распараджэнне Савета Міністраў № 469 ад 21.XI. 1947 г., якое санкцыяніравала створаны ў Белавежскай пушчы ахоўваемы з 1921 г. аб'ект з чарговымі назвамі — Лясніцтва..., потым Надлясніцтва „Запаведнік“ і „Нацыянальны парк у Белавежы“ (з 1932 г.). У гісторыі парку пачаўся новы этап, характэрны перш за ўсё інтэнсіўным усебаковым развіццём навуковых даследаванняў над яго флорай і фаўнай. Разгортваецца таксама турысцкі рух.

Першай працай, якая выконваецца ў БНП, было добраўпарадкаванне яго тэрыторыі — запаведніка прыроды і палацовага парку. На шчасце, II сусветная вайна не прынесла тут вельмі вялікай шкоды. Акупанты, аднак, спаліўшы палац, знішчылі шмат каштоўных музейных экспанатаў, аснашчэнне навуковых лабараторый і частку архіва.

У г.г. 1948-50 да тэрыторыі запаведніка прыроды далучаюць лугі над рэкамі Гвозьная і Нараўка, якія дагэтуль выкарыстоўваліся мясцовымі сялянамі. У 1953 годзе пачынаюцца працы над прыродазнаўчай інвентарызацыяй таго ж запаведніка. Працягваюцца яны 6 гадоў. У 1955 г. у БНП ствараецца Цэнтр гадоўлі рэдкай звярыны, які займаецца перш-наперш гадоўляй зубра. Ад 1957 г. пачынаецца сапраўдны перыяд гадоўлі зуброў на свабодзе. Першыя былі выпушчаны з-за агароджы ў г. 1952-56.

19.І.1957 г. міністр лясніцтва распараджэннем № 24 стварае навуковы савет БНП. Першае пасяджэнне савета (у справе турызму на тэрыторыі парку) адбываецца 24 мая таго ж года.

У 1960 г. у сувязі з гасцяваннем у парку ўдзельнікаў VII Кангрэса Міжнароднай уніі аховы прыроды і яе рэсурсаў змяняецца экспазіцыя Прыродазнаўчага музея БНП. У г. 1960-61 праводзіцца дэндралагічная інвентарызацыя палацовага парку. У 1964 г. на тэрыторыі гэтага парку аддаецца ў карыстанне (збудаваны на месцы згарэўшага на некалькі гадоў раней) новы Паляўнічы дом. Тут таксама ў г.г. 1964-70 будуецца на месцы руінаў царскага палаца комплекс будынкаў на турысцкія патрэбы. У адно з крылаў гэтага комплексу ў 1972 г. пераводзіцца прыродазнаўчы музей БНП.

На працягу гэтых 30 гадоў на тэры-

(Працяг на стар. 5)



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ЛЯЧЭННЕ.**

# КАЎТУН

Згодна з медыцынскай тэрміналогіяй — гэта запушчанае на галаве месца, дзе ў склееных брудам валасах гнездзяцца вошы. Паралельна з гэтай існуе тэорыя, акрэсленая вераперакананнем і свядомасцю простых людзей. Гаворыць яна, што галоўнай прычынай паяўлення каўтуна з'яўляецца перапалох. Перапалох у перакананні людзей быў заўсёды прычынай розных хвароб, а ў тым ліку і гэтай. Бытаванне гэтай хваробы сцвярджае таксама выдадзены ў 1793 годзе „Лекаж для влосьцян". Праводзіцца там падзел каўтуна на тры віды: сухі, гнойны і крывавячы — гэта значыць, што калі яго зняць, пачне моцна цячы кроў. Аўтар адзначанага падручніка Людвік Пэжына абыякава толькі адносіцца да трэцяга віду каўтуна. Не лічыць яго ніякай хваробай, а пладом асабістага нядбайства і безупыннага драпання галавы. У выніку гэтага паяўляюцца на ёй струпы і пачынаюць звівацца валасы. Найлепшым лекам з'яўляюцца адпаведныя гатункі зёл, якія дапамагаюць каўтуну вывіцца. Потым з вялікай асцярожнасцю можна яго „зняць".

Згодна з багатай на гэтую тэму літаратурай, прычынай паяўлення каўтуна лічыліся таксама шматлікія хваробы, перад усім: рэўматызм, які спалучалі з каўтуном з увагі на характэрны боль, які мог перайсці на галаву і паскручваць валасы, жаночыя хваробы і хваробы псіхічныя, якія лічыліся своеасаблівым каўтуном чалавечай псіхікі. Калі мы ўжо пры прычынах паяўлення гэтай хваробы, дык неабходна трэба сказаць пра „Календаж" Дунячэўскага з 1758 года, а дакладна яго 15-ы пункт. Згодна з ім прычынай паяўлення каўтуна былі татары, якія пры сваіх крывавых наездах бралі людскія сэрцы і прашывалі іх вырванымі з галавы валасамі. Потым кідалі іх у студні, крыніцы, сажалкі ці рэчкі з мэтай нанясення заразы на тых, што схаваліся ў лясах. Адгэтуль і паявіўся каўтун.

Яшчэ па сённяшні дзень, што падтрымоўваюць зробленыя запісы, вераць людзі ў магчымасць паяўлення каўтуна. Лічаць яны, што мог ён быць сасланы на чалавека чалавекам з вядзьмарскімі схільнасцямі. І тут назіраецца ўплыў шкодніцкай магіі.

Каўтун, згодна з перакананнем, пачаткова скрываецца ў сярэдзіне чалавека і выклікае ў яго капрызнасць. Паяўляюцца розныя прыхамаці. І тут так, як цяжарнай жанчыне, так і хвораму на каўтун нельга ні ў чым адмаўляць. Найгоршы аднак той перыяд, калі каўтун знаходзіцца ў сярэдзіне чалавечага арганізма. Аблягчэнне наступае тады, калі ён выўецца і паявіцца на галаве ў выглядзе збітага жмухту валос. Знікаюць тады ўсе болі і недамаганні, а між іншым і параліч, які пераходзіць на валасы. Толькі трэба адчакаць, пакуль адрастуць валасы ад скуры і каўтун выразна выдзеліцца. Тады можна пачаць яго знімаць. Абсалютна нельга абразаць ножніцамі, бо можа зноў аб'явіцца параліч. Згодна з перакананнем, дапаможнай была ў гэтым свянцоная грамнічная свяча, якой, пры адначасовым адмаўлянні малітваў, абпальваўся каўтун. Выконвала гэта найчасцей знахарка або шаптуха. Што рабілася з гэтым знятым жмухтом валос? Найчасцей яго спальвалі ў печы, або кідалі ў труну пакойніка, што сімвалізавала перадаванне яму гэтай хваробы, якую ён забярэ з сабой ў магілу. Часта таксама зняты каўтун закопвалі пад кустом бэзу. Найбольш аднак людзі баяліся пераношвання каўтуна. Верылі яны, а нават вераць яшчэ па сённяшні дзень, у магчымасць пераказання яго другому чалавеку за пасрэдствам нейкіх рэчаў. Згодна з перакананнем, хапіла выцерці вывіўшы на галаве каўтун хусткай ці нейкай іншай рэччу і падкінуць яе на дарогу. Той, хто гэта падыме, забярэ на сябе каўтун. Быў гэта спосаб пазбывання хваробы коштам другіх.

Нягледзячы на шырокае яшчэ, згодна з перакананнем людзей, бытаванне гэтай хваробы, назіраецца паступовы яе заняпад. І часта гэтым тэрмінам вясковыя людзі акрэсліваюць сучасную прычоску, а дакладней начосванне валасоў або накладанне парыкоў.

**Янка Леанчук, Міхась Шаховіч**



## Урачысты фінал конкурсу „Сярод сяброў"





*Нашы сябры з Гродна (злева направа): заслужаны дзеяч мастацтва РСФСР Аляксандр Струнін, інжынеры Вадзім Сарокін, Неаніла Далабеева (лаўрэаты конкурсу) і намеснік галоўнага рэдактара „Гродзенскай праўды" Язэп Багіна.*

Урачыстым акцэнтам закончыўся конкурс „Сярод сяброў", які быў аб'яўлены рэдакцыямі „Гродзенскай праўды", „Газеты вспулчэснай" і „Нівы" ў сувязі са святкаваннем 60-годдзя Вялікага Кастрычніка. 8 снежня г.г. у беластоцкім „Дому друку" адбылася сяброўская сустрэча лаўрэатаў трох рэдакцый. (У той жа дзень падобная сустрэча адбылася і ў г. Гродна).

Былі ўзнагароды, словы падзякі і хвалюючыя думкі. Мы яшчэ раз пераканаліся, што наш супольны конкурс сыграў вялікую пазнавальную і выхаваўчую ролю. Цікавымі аказаліся і самі лаўрэаты. Проста бліскучым было выступленне вучаніцы бельскага белліцэя Гражыны Каляты. А расказвала яна не толькі аб тым, як праходзіў конкурс у яе ліцэі, але і выказала цікавыя думкі адносна яго зместу.

Конкурс „Сярод сяброў" выклікаў вялікае зацікаўленне не толькі ў бельскім белліцэі, карыстаўся ён таксама не меншай папулярнасцю на ўсёй Беласточчыне, а таксама ў Сувальскім і Ломжынскім ваяводствах. Такую ж ацэнку конкурсу далі і нашы сябры з Гродна. Думкі ўсіх сходзіліся ў адным месцы: конкурс дружбы трэба надалей нам працягваць.

Дык да новых сустрэч, сябры!

**Літаратурны палетак**

## ПАЭЗІЯ ВЕЛЬМІ БЛІЗКАЯ

На аўтарскую сустрэчу ў памяшканні БГКТ у Варшаве прыехалі два верныя сябры, два паэты з Беласточчыны — Янка Леанчук і Міхась Шаховіч.

Журналіст „Нівы" М. Шаховіч — добра тут усім вядомы, пяць гадоў вучыўся на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, тады калі Я. Леанчук упершыню пераступіў парог клуба БГКТ на Сенатарскай. Таму і патрэбна тут было бліжэйшае знаёмства.

Янка Леанчук нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Лубнікі, што пад Заблудавам на Беласточчыне, у сялянскай сям'і. Закончыў польскую філалогію ў Варшаўскім універсітэце і з'яўляецца навуковым супрацоўнікам аддзялення польскай філалогіі філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. У 1970 годзе пачаў пісаць вершы на польскай мове. Піша даволі многа і цікава, друкуецца ў беластоцкіх і цэнтральных літаратурных часопісах. З'яўляецца членам літаратурнага клуба ў Беластоку і цесна супрацоўнічае з беларускім літаратурна-мастацкім аб'яднаннем „Белавежа". Вынік гэтага супрацоўніцтва — дэбют на кастрычніцкай літстаронцы. Я. Леанчук выступіў у „Ніве" з цікавымі крытычнымі артыкуламі. Варта таксама прыгадаць, што Я. Леанчук супольна з М. Шаховічам займаецца вывучэннем багатага беларускага фальклору Беласточчыны.

Янка Леанчук на сустрэчы ў Варшаве шырока прадставіў свае паэтычныя здабыткі з падрыхтаваных да друку зборнікаў: „Żaln k" (неўзабаве паявіцца ў Выдавецтве „Pojezierze" ў Ольштыне), „Obrazki prowincjonalne" і „Duszna noc".

Рэфлексійныя замалёўкі Я. Леанчука, змешчаныя на літстаронцы „Белавежа", прачытала на сустрэчы паэтэса Н. Артымовіч.

Паэтычныя вобразы Я. Леанчука гэта, як сам ён сказаў, не фатаграфіі. У гэтых вобразах выступаюць не далікатныя мастацкія штрыхі, а шматпластавасць, вялікае згушчэнне фарбаў. Паэзіі Леанчука ўласцівы Норвідаўская кандэнсацыя і ўскладненасць думкі, багацце арыгінальнай сімволікі, метафарыкі. Рэальнасць зліваецца тут з нерэальнасцю ў дасканалую суцэльнасць і нягледзячы на тое, што паэт паслугоўваецца багатай сімволікай, перадае ён аўтэнтычнасць сваіх роздумаў, перажыванняў. Карэнні паэзіі Леанчука глыбока засяроджаны ў грунце родных Лубнікаў, у вобразах працавітых бацькоў, сялян. Багацце мовы, дасканаласць формы, незвычайная меладычнасць, многагалоссе думак родзяць у слухача і чытача глыбокія роздумы, вялікія эстэтычныя перажыванні, якія не патухаюць, а ўваходзяць глыбока ў душу чалавека.

Аднак жа вуха слухача, як сцвярджалі дыскутанты, не вылаўлівае ўсяго багацця аграмаднай кандэнсацыі думак паэта. Таму трэба быць не толькі слухачом, але і чытачом, каб поўнасцю заглыбіцца ў складаную матэрыю Леанчуковага мастацтва. У „Душнай ночы", сцвярджалі дыскутанты, чалавек сапраўды задыхаецца ад напльіву думак, якія аўтар пусціў самапасам, перамешваючы рэальнасць з узнёслай фантазіяй. Варта таксама падкрэсліць той факт, што ў Леанчука выступае сужыццё беларускай і польскай моваў у адным творы:

...Żar ucieka serce łamie
w snu zostajesz pustej ramie
cięty krzyżem od ucieczki
a po niebie płaczą płaczki
hrosz wieliki zahoryusie
nuocz została za stodołoj
swiatyj czas u zwiezdach moj Hospod
iszcze słonce za pleczami...

(„Душная ноч")

**Віктар Швед**



*Янка Леанчук. Фота М. Шаховіча*

# ХРОНІКА

■ 17 лістапада лектары ГП БГКТ выступілі з дакладамі на тэму: „Кастрычніцкая рэвалюцыя і нацыянальнае пытанне". Вінцук Склубоўскі выступаў у Паўночным Востраве (гміна Шудзялава), Юрка Геніюш у Паўднёвым Востраве, Міхась Шаховіч у Гуранах і Надзя Панасюк у Новым Востраве Шудзялаўскай гміны.

■ 26 лістапада гарадскі гурток БГКТ у Беластоку арганізаваў традыцыйную танцавальную вечарыну „Андрэйкі".

■ 29 лістапада нашы літаратары Сакрат Яновіч і Васіль Петручук правялі аўтарскую сустрэчу ў Васількове.

■ 30 лістапада журналіст „Нівы" М. Шаховіч выступіў у памяшканні варшаўскага гуртка БГКТ з дакладам „Мастацкая літаратура на старонках „Нівы". (мх)

■ 1 снежня публіцыст „Нівы" Мікалай Гайдук выступіў у Падляшска-мазурскай часці Войск аховы пагранічча. Расказаў ён аб дзейнасці БГКТ і рэдакцыі.

# ДЛЯ ВАС, ШКОЛЬНІКІ!

Як штогод, для моладзі ўсіх школаў, у якіх вядзецца навучанне беларускай мовы, кураторыя асветы і выхавання ў Беластоку, Галоўнае праўленне БГКТ, рэдакцыя „Нівы" і дырэкцыі зборных гмінных школаў арганізоўваюць конкурс **„Беларуская песня-78"**.

Конкурс ставіць сваёй мэтай стварэнне больш шырокіх магчымасцей развіцця і паглыблення індывідуальных зацікаўленняў вучняў, пашырэнне сярод іх зацікаўлення мастацтвам, азнаямленне школьнай моладзі з самастойнай працай над песняй і з публічнымі выступленнямі, абуджэнне зацікаўлення народнай песняй Беласточчыны.

У конкурсе можа прымаць удзел школьная моладзь ва ўзросце ад 5 класа ўключна, а таксама вучні сярэдніх школ. Ён разлічаны на салістаў і невялікія вакальныя групы.

**Конкурс будзе праходзіць на трох этапах: школьныя эліміналцыі да 31 сакавіка 1978 г., гмінныя — да 20 красавіка, а фінальныя адбудуцца ў месяцы маі.**

У гмінных эліміналцыях прымаюць удзел пераможцы школьных аглядаў, а найлепшыя спевакі з гмінных эліміналцый паедуць на фінальны агляд. Калі па якіх-небудзь прычынах не будуць праведзены гмінныя эліміналцыі, пераможцы са школьных аглядаў будуць накіраваны на фінальны агляд.

Кожны ўдзельнік конкурсу абавязаны падрыхтаваць два творы па ўласнаму выбару. Журы не будзе ацэньваць тых песень, з якімі ўдзельнік выступаў ужо ў папярэднім конкурсе „Беларуская песня".

Пры ацэнцы журы будзе браць пад увагу: рэпертуар, інтэрпрэтацыю твораў, галасавыя магчымасці і выканаўчае майстэрства.

Гмінныя эліміналцыі правядуць гмінныя зборныя школы ўласным коштам, а рэчавыя ўзнагароды на **фінальныя** эліміналцыі падрыхтуюць арганізатары конкурсу: **для салістаў I узнагарода вартасцю 300 зл., дзве II узнагароды па 200 зл. і дзве III узнагароды па 150 зл.; для вакальных груп I узнагарода вартасцю 500 зл. і II узнагарода вартасцю 400 зл. Будзе спецыяльная ўзнагарода „Зоркі" і 10 дадатковых узнагарод пацяшэння вартасцю па 100 зл. кожная.** Журы можа падзяліць гэтыя ўзнагароды інакш, але без змяншэння іх агульнай вартасці.

Гмінныя школы вышлюць спіскі ўдзельнікаў фінальных эліміналцый у кураторыю асветы і выхавання не пазней 30 красавіка 1978 г.

Падрыхтоўваць конкурс у школах будуць настаўнікі беларускай мовы і музычнага выхавання.

**Юным спевакам жадаем удалых выступленняў!**



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Куток практычных ведаў




### НА КАРНАВАЛ

Якая сёння мода на карнавал? А такая, што не тое моднае, што якраз моднае, а тое, у чым каму да твару. Калі хто хоча выглядаць цікава, дык трэба прытрымлівацца менавіта гэтага прынцыпу. І няма сэнсу ламаць галаву над нязвыклым фасонам, лепш паставіць перад сабой пытанне: „У чым я буду выглядаць прыгожа?“ Заўсёды трэба памятаць аб тым, што ў культурнай кампаніі чалавек дэманструе не вопратку, а сябе ў адпаведнай вопратцы.

Мода існуе дзеля таго, каб браць з яе толькі па меры патрэбы. Актуальную лінію можна падкрэсліць нейкай дробнай дэталлю, як напрыклад, форма рукава, паясок ці хвальбана пры спадніцы.

Спадніцу і блузку заўсёды лягчэй прыдумаць, чым сукенку, і таму многія жанчыны аддаюць перавагу якраз ім. Акрамя таго, сукенка прыядаецца вельмі хутка, а пры спадніцах можа быць неабмежаваная колькасць адмен. І за кожным разам гэта будзе тое самае, а адначасова нешта зусім іншае, свежае.

**Сяброўка**






Дарагое Сэрцайка, пішу я да цябе не ў справах кахання, але ў справе вельмі для мяне важнай. У мяне ёсць двое дарослых дзяцей — дачка і сын. Дачка выйшла замуж. Жыць засталіся ў нас. Дачка нарадзіла дзяўчынку. Я не працую, дык памагала дачцы пры малой, а пасля мацярынскага водпуску дачка пайшла на работу, а я ўжо сама апекавалася малой. Дзяўчынку я вельмі люблю, але і яна да мяне вельмі прывязалася. Толькі кажуць, што я яе вельмі распусціла, бо ўсё ёй у мяне можна, усё, чаго захоча, стараюся ёй даць. Але я інакш не магу, шкада мне малой. Ужо ёй тры гады, і нядаўна нарадзіўся хлопчык. Атрымалі яны кватэру, але дзяўчынку пакуль што пакінулі ў нас. Я ім казала, каб дзяўчынка і надалей была ў нас, але дачка ўзяла даўжэйшы водпуск і хоча забраць яе да сябе. Гаворыць, што дзіця павінны выхоўваць бацькі. А я не ўяўляю сабе, як гэта мы без яе астанемся. У мяне ж ёй крыўды няма, яна мне найдаражэйшая за ўсіх.

Анна з Бельска

Анна! Старая гэта праўда, што ўнучкаў кахаюць яшчэ мацней, як сваіх дзяцей. Але, калі ёсць магчымасць, найлепш, калі дзяцей выхоўваюць бацькі. У іх заўсёды большая дысцыпліна. Дзіця ж павінна ведаць, што не ўсё яму можна. І другая, вельмі важная справа. Дзіця прывыкае да таго, хто яго выхоўвае. І калі дзіця ўвесь час з бабкай, яно звязваецца моцна пачуццямі з ёй і бацькі становяцца яму больш далёкімі. А бабка ж з дзедам не вечныя. І бывае, што пасля смерці бабкі такое дзіця адчувае сябе амаль сіратой, бо страціла найбліжэйшую яму асобу, хаця мае бацькоў. І таму ты павінна згадзіцца з дачкой, аддаць унучку, а жывеце ж вы ў адным горадзе, дык можаш часценька ўнучку наведваць.

**Сэрцайка**

## Ці ведаеце, што...

...у Беластоцкім ваяводстве дзейнічае 35 сельскагаспадарчых прадукцыйных спулдзельняў. Пяць з іх арганізавалася ў гэтым годзе.

...на Беласточчыне налічваецца звыш 1 500 спецыялістычных гаспадарак, да 5 000 спецыялізуючыхся і 332 прадукцыйныя калектывы.

...Беластоцкая ваяводская арганізацыя ЗСЛ налічвае звыш 8 000 членаў. У яе радах ёсць 66% сялян, 26% жанчын і 30% асоб ва ўзросце да трыццаці гадоў. Найлепш працуюць гмінныя камітэты ЗСЛ у Васількове, Янаве, Моньках, Гарадзіску, Дзятковіцах, Гайнаўцы і Сакольцы.

**(ця)**

ПЫТАННЕ: Муж прапіваў увесь заробак і не даваў на ўтрыманне двaіх дзяцей. Некалькі месяцаў назад ён пакінуў жонку і жыве ў іншай жанчыны, а з працы яго выкінулі за п'янства. Ён пазычае грошы дзе толькі можа і смяецца, што гэта ўсё заплаціць жонка, а калі не заплаціць, судовы выканаўца прадасць хатнюю абстаноўку, хоць практычна гэта абстаноўка набыта за грошы, заробленыя жонкай. Паколькі ў іх двое дзяцей, жонка не хоча падаваць у суд на развод. Ці могуць крэдытары патрабаваць ад жонкі, каб плаціла даўгі мужа?

## Кансультацыя юрыста

АДКАЗ: Паколькі ўсё, што набыта працай мужа або жонкі ў час супольнага жыцця (незалежна ад таго, ці яны пражываюць разам ці асобна), з'яўляецца па закону супольнай маёмасцю, крэдытары мужа могуць кіраваць экзекуцыю на супольную маёмасць. Аднак, жонка можа звярнуцца ў суд з патрабаваннем абмежаваць або выключыць магчымасць гэткай экзекуцыі, калі даўжніком з'яўляецца толькі муж, пазыка ўзята толькі на яго ўласныя патрэбы, а набыццю маёмасці муж не спрыяў або спрыяў нязначна. Найлепш, аднак, было б, каб жонка звярнулася зараз у суд з патрабаваннем знесці маёмасную супольнасць. Суд можа гэта зрабіць з датай рэгрэсіўнасці, г.зн. ранейшай чым дата рашэння. Пасля адмены судом супольнай маёмасці, маёмасць, якую прыдбае жонка за свой заробак, будзе з'яўляцца выключна яе ўласнасцю.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Мне прысніўся такі сон. Нібы я сплю і раптам ударыў гром. Не было чуваць ані грымотаў, ані навальніцы, толькі ўдарыў два разы пярун. Ён ударыў проста ў мяне. Я вельмі спужалася і прачнулася. Напішы, дарагі Астроне, што абазначае мой сон. Я баюся, што азначае ён вялікую небяспеку.

Ірэна з Беласточчыны

Сняцца мне дзіўныя сны. Вось здаецца, што я памерла і ляжу на могілках, закапаная ў магіле, ажно чую, што хтосьці мяне адкопвае, адкрывае труну, а то мой муж і кажа: „Паглядзі на свайго сына, які ён прыгожы“. Я расплюшчваю вочы. З правага боку стаіць муж, з левага святар малiцца... 

Аня з Мора

**Ірэна з Беласточчыны!** Спадзявайся гневу начальства (але на каго ж начальства не гневаецца ў святочны перыяд, калі жанчыны разрываюцца між працаю і хатай?!)

**Аня з Мора!** Паміралі вы ў сне — значыць, чакае вас здароўе і доўгавечнасць.

**Астрон**

ФРАНК МАН




Кудэль Блок, моршчачыся ад болю ў параненай руцэ, зноў прыпаў да прыбораў.

Слыхавікі на тарпеданосцах таксама, вядома, не драмалі. А, магчыма, там, наверсе, прыкмецілі на мінуту перыскоп, які з'явіўся. Як бы там ні было, праз мінуту Кудэль трывожна далажыў:

— Шум машыны і вінтоў. Набліжаюцца да нас. Лодку выявілі.

Яшчэ праз мінуту пачалася бомбавая атака. Спачатку шорах, які набліжаўся, затым цяжкі аглушальны ўдар. Матросы ўцягнулі галовы ў плечы. Паднятыя ўверх твары пабялелі. У кутках параненых з „Мемеля“ рвала ад страху. Ханс Шроткамп, пaглядзеўшы на іх, успомніў жаўтаротых хлопчыкаў-рэкрутаў з таверны „Цудоўны брыг“...

Атака скончылася нечакана. Магчыма, там, наверсе, згубілі след. Каб не выявіць сябе, Ханс загадаў выключыць усе маторы. Лодка лягла на грунт. Кудэль Блок далажыў са сваёй апаратнай, што зверху не даносіцца ні гука. Бачыўшыя віды падводнікі сумна пераглянуліся: усё зразумела, тарпедысты застапарылі маторы і чакаюць... З кутка пачуўся ціхі, няўпэўнены голас галоўнага механіка:

— Шроткамп, калі вам трэба, я цалкам у вашым распараджэнні.

Ханс са здзіўленнем агледзеў обер-лейтэнанта.

— У мяне на беразе дзеці, Шроткамп, і стары бацька, — сказаў галоўны механік, які, відаць, зразумеў настрой старшыны. — Не думайце пра мяне дрэнна.

Старшына не паспеў адказаць. Атака аднавілася.

Тарпедысты на ўсялякі выпадак апрацоўвалі ўвесь падазроны раён. Спачатку бомбы рваліся даволі далёка, потым выбухі пачалі набліжацца. І раптам — так нечакана, што матросы не чулі нават звычайнага шораху — лодку ўзрушыў страшэннай сілы ўдар. Карму рэзка занесла ўбок. Задрыжэлі шыбы, патухла святло. Цьмяна мігцелі аварыйныя лямпы. Ханс Шроткамп, ухапіўшыся за перыскоп, закрыў вочы. Канец. Цяпер на дно. Ён пакорліва чакаў наступнай бомбы, якая ўсё закончыць.

Але наступнай ён не дачакаўся... Калі Ханс, нарэшце, адкрыў вочы, першае, што ён убачыў, — апусцелы кут. Афіцэраў там не было. Ён спалохана азірнуўся і ўбачыў, што адзін з матросаў, якія пільнавалі афіцэраў, ляжыць з разбітай галавой і стогне, абліваючыся крывёю. Другі ўпёрся каленам у грудзі палкоўніка, а галоўны механік — так, так, той самы таўсцяк! — цэліцца з аўтамата ў грудзі Ноермеера. Напэўна, фон Хасель і Ноермеер у час выбуху, калі матросы пападалі адзін на аднаго, спрабавалі раззброіць варту і завалодаць аўтаматамі. Калі б не механік, было б позна ўжо.

Калі матрос звязаў, нарэшце, палкоўніка, обер-лейтэнант перадаў яму свой аўтамат і спытаў у Шроткампа, ці можа ён агледзець пашкоджанні. Старшына, не знаходзячы слоў, моўчкі кіўнуў яму.

Бомбавыя атакі аднаўляліся яшчэ чатыры разы, але ўсё абышлося. Ханс Шроткамп перачакаў дзеля асцярожнасці яшчэ гадзіну і толькі тады адважыўся працягваць шлях. Матросы дыхалі праз аварыйныя каліевыя патроны. Паветра заставалася ўсё менш, трэба было спяшацца.

Вечарам яны здаліся эсмінцу — першаму савецкаму караблю, які ім сустрэўся.

Праз чатыры дні перадавая нямецкай абароны на Усходнім фронце была ўсеяна лістоўкамі. Вярхоўнае камандаванне паведамляла, што савецкая падводная лодка патапіла санітарны нямецкі параход „Мемель“. Лістоўкі заклікалі салдат зрабіць адпаведныя вывады і да апошняй кроплі крыві біцца за фюрэра і за перамогу трэцяга рэйха.

Але вечарам таго ж дня дзесяткі нямецкіх матросаў і салдат расказалі сваім таварышам праўду аб „Мемелі“. Іх галасы гучалі з магутных гучнагаварыцеляў, устаноўленых за савецкімі акопамі.

Сярод гэтых галасоў гучаў і голас былога старшыны Ханса Шроткампа.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

